# Голас Радзімы

31 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 2000 рублёў.

№ 51—52
(2609—2610)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі
Бацькаўшчыны. Выдаецца з 1955 г.



**З Новым годам!**

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь шчыра віншуе ўсіх суайчыннікаў у замежжы з Новым, 1999 годам і Калядамі!

Спадзяемся, што новы год будзе спрыяць памнажэнню духоўных набыткаў, здзяйсненню творчых задум, паляпшэнню сямейнага дабрабыту, а наша супрацоўніцтва будзе пашырацца і мацнець.

Жадаем святочнага настрою, моцнага здароўя, асабістага шчасця!

**Аляксандр БІЛЫК,**
**старшыня камітэта.**

❄ ❄ ❄

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Сардэчна віншую вас з Калядамі і Новым, 1999 годам! Жадаю ўдачы ва ўсім!

**Соня ХЭЎЛ.**

Германія.

❄ ❄ ❄

Рэдакцыі "Голасу Радзімы" жадаем вясёлых Каляд і шчаслівага Новага года!

Зычым поспехаў у працы, у пашырэнні і абароне беларускага слова як на Бацькаўшчыне так і за яе межамі.

**Сям'я БУДКЕВІЧАЎ.**

Англія.

**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

## Аляксандр ТАЛСТОЙ:

# «У ГІСТОРЫІ ВАЖНА ПРАВІЛЬНА ВЫЗНАЧЫЦЬ КРОПКУ АДЛІКУ»



*Аляксандр ТАЛСТОЙ — прадаўжальнік вядомага рускага роду, вучоны-лінгвіст, антраполаг, нарадзіўся ў Парыжы. Скончыў Сарбону і Парыжскі інстытут усходніх моваў. Валодае чатырнаццаццю мовамі. Сваё жыццё падзяляе на дзве часткі. Адзінаццаць гадоў выкладаў у французскіх універсітэтах славістыку, лінгвістыку, а таксама як прафесар-асветнік чытаў лекцыі ў навучальных установах іншых краін. З 1972 па 1995 год знаходзіўся на дыпламатычнай службе. Працаваў у Югаславіі, Турцыі, ЗША, Грэцыі... Завяршыў сваю дыпламатычную кар'еру ў Беларусі. Аднак і пасля гэтага А. Талстой Беларусь не пакінуў, зноў заняўся выкладчыцкай дзейнасцю. Ён садэкан франка-беларускага факультэта Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, што ў Мінску.*

**— Аляксандр Мсціслававіч, вы заўсёды мелі магчымасць выбару: разнастайныя здольнасці, адкрыты свет без межаў. І ўсё ж чаму Беларусь!**

— Як часта бывае ў жыцці, у тым, што я тут, адыгралі ролю як выпадковасць, так і заканамернасць. Я сапраўды мог апынуцца ў Ташкенце ці зноў накіравацца ў ЗША, але спыніў свой выбар на Кіеве. Як раптам абставіны змяніліся, і мне прапанавалі паехаць у Мінск. Калі настроены на нешта пэўнае, планы цяжка мяняць. Але ўсё ж адзін аргумент прымусіў мяне зрабіць гэта. Я зразумеў, што калі не выкарыстаю такі выпадак і не траплю на зямлю продкаў, то буду шкадаваць аб гэтым да канца жыцця.

**— Што ж перамагло: адказнасць за захаванне памяці роду ці цікавасць вучонага-антраполага!**

— У даным выпадку гэтыя інтарэсы супалі. Ведаеце, у свеце існуе адзін род Талстых, ён аб'ядноўвае ўсіх людзей з гэтым прозвішчам. У нас складзена поўная радаслоўная з XIII стагоддзя па сённяшні дзень. У ёй больш дзвюх тысяч чалавек. Дзвесце, якія жывуць цяпер, раскіданы па ўсім свеце, але ўсе ведаюць, што ў 1229 годзе з Фландрыі на Русь да чарнігаўскага князя Мсціслава прыйшоў воін Генрык, ці па-старажытнаславянску Індрыс, і атрымаў ад яго зямлю. Гэта наш продак, а я, напрыклад, яго дваццаць пятае калена. Да таго ж адна з галін нашага роду асталявалася некалі ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губерні.

**— Вы прыехалі ў нашу краіну ў 1992 годзе. Не сакрэт, што тады для многіх у Еўропе Беларусь была паняццем хутчэй геаграфічным, чым гістарычным. Ці змянілася гэта ўяўленне!**

— Так, сапраўды, калі ад'язджаў сюды, Беларусь у Францыі ўспрымалася як выпадковае ўтварэнне ў выніку распаду Расійскай імперыі. Бо шаблоны гістарыяграфіі прызнаюць толькі тыя народы, якія самі ўтварылі свае дзяржавы. Па гэтых крытэрыях у Беларусі ды і ва Украіны гісторыі дзяржаўнасці няма.

Аднак я, з пункту гледжання палітычнай антрапалогіі, прыйшоў да іншай высновы. У сілу сваёй самабытнасці Беларусь развіваецца па мадэлі, якая адрозніваецца ад еўрапейскай. Мае антрапалагічныя веды прымірающь мяне з лёсам краіны Беларусь. Яе гістарычная місія выклікае павагу і спачуванне. Яна, як хваляррэз, спыняла, разбівала на сваёй тэрыторыі ваенныя і ідэалагічныя нашэсці. Выратоўвала суседзяў, але сама несла непапраўныя страты, губляла, акрамя многага іншага, і носьбітаў памяці. На беларускай зямлі, напрыклад, спынілася хваля візантыйскага хрысціянства, не дайшоўшы да

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!
*ПІСЬМЫ ЧЫТАЧОЎ*
**4-5 стар.**

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ.
**7 стар.**

## *Тыдзень: Міжнародны агляд. Фотафакты.*

● Юрась ДОМНІЧ.

### ІНІЦЫЯТЫВА БЕЛАРУСІ ПАДТРЫМАНА ААН

Прынцце на 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый рэзалюцыі "Рэгіянальнае раззбраенне" выклікала моцны рэзананс у Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што праект рэзалюцыі быў прапанаваны да разгляду менавіта беларускім бокам. Зацвярджэнне дакумента ААН не толькі замацоўвае сённяшні бяз'ядзерны статус дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, але і забараняе ў будучыні размяшчэнне ракет на тэрыторыі новых членаў НАТО. Ідэю стварэння ў рэгіёне зоны, свабоднай ад ядзернай зброі, наша дзяржава вылучыла адразу пасля вывядзення за межы краіны смертаноснай спадчыны, якая дасталася Беларусі ад СССР. Прапанова на працягу некалькіх гадоў настойліва гучала на пасяджэннях сусветных і агульнаеўрапейскіх міжнародных арганізацый, але рэальна ацэнена толькі зараз.

Такім чынам, Беларусь стала адным з аўтараў новай архітэктуры рэгіянальнай бяспекі ў Еўропе. Уклад нашай дзяржавы высока ацэньваецца ў рэзалюцыі. Міністэрства замежных спраў лічыць факт прыняцця дакумента важнай і надзейнай палітычнай асновай для актывізацыі ўсебаковага ўзаемадзеяння не толькі з краінамі еўрапейскага кантынента, але і з іншымі дзяржавамі.

### ПАСЛЫ МОГУЦЬ НЕЎЗАБАВЕ ВЯРНУЦЦА Ў МІНСК

Яшчэ адной важнай палітычнай перамогай беларускіх дыпламатаў стала вырашэнне працяглага "пасольскага" канфлікту з краінамі Еўрапейскага саюза, ЗША, Японіі і з дзяржавамі, якія падтрымалі іх дзеянні. На мінулым тыдні ў Мінску была падпісана заява міністра замежных спраў Беларусі і Старшыні Савета Еўрасаюза, у якой вызначаны ўмовы вяртання паслоў у беларускую сталіцу і ўрэгуляваны пытанні адносна размяшчэння іх рэзідэнцый.

### НАВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ З НОТЫНГЕМА

Канфлікт у асяроддзі дыпламатаў ніякім чынам не перашкаджае развіццю грамадскіх сувязей Беларусі з далёкім і блізкім замежжам. Пацвярджэнне таму — нядаўні прыезд у беларускую сталіцу дэлегацыі з Нотынгема — горада-пабрацііма Мінска.

Лорд-мэр Нотынгема спадарыня Джойс Дон разам са сваімі калегамі прывезла груз гуманітарнай дапамогі для медыцынскіх устаноў Мінска, а таксама дзіцячыя навагоднія падарункі. Госці сустрэліся з прадстаўнікамі спартыўных клубаў сталіцы, з кіраўніцтвам Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта. Падчас гутаркі ў Мінгарвыканкоме абмяркоўваліся накірункі супрацоўніцтва паміж гарадамі-пабрацімамі і план канкрэтных дзеянняў на бліжэйшую перспектыву.

### БАЛКАНСКАЯ КУЛЬТУРА НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Адначасова ў Беларусь прыехала і прадстаўнічая дэлегацыя з Саюзнай Рэспублікі Югаславія. 10—16 снежня ў Мінску і іншых гарадах Беларусі прайшлі Дні культуры СРЮ. Адкрылі мерапрыемствы міністр культуры нашай краіны Аляксандр Сасноўскі і намеснік прэм'ер-міністра Югаславіі Даніла Вукавіч.

На цырымоніі адкрыцця паказалі сваё мастацтва Бялградскі сімфанічны аркестр, Бялградскі камерны хор і іншыя творчыя калектывы. У межах Дзён культуры адбыўся паказ югаслаўскага кіно, працавала выстава мастакоўпрымітывістаў, скульптараў і фатографаў. Цікава, што мерапрыемствы не абмяжоўваліся сталіцай: госці пабывалі ў Горках, Рэчыцы, Мазыры, Лідзе, Брэсце, Шчучыне. Мяркуецца, што ў красавіку наступнага года ў Югаславіі пройдуць Дні беларускай культуры.

### УКРАІНА І БЕЛАРУСЬ ПАДПІСАЛІ ПЛАН СУПРАЦОЎНІЦТВА НА 10 ГАДОЎ

У пачатку снежня ў беларускай сталіцы знаходзіўся з рабочым візітам Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Мэта прыезду, паводле яго слоў, заключаецца ў пошуку адказу на пытанне, "як зрабіць наша жыццё лепшым". Калі ж канкрэтна, то Л. Кучма на перамовах з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і прэм'ерам Сяргеем Лінгам абмяркоўвалі праблемы, якія датычацца гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, варыянты пагашэння запазычанасцей, шляхі пераадолення наступстваў расійскага крызісу.

Бакі падкрэслілі, што ў сённяшняй сітуацыі неабходна максімальна развіваць кантакты на рэгіянальным узроўні. Згодна з папярэдняй дамоўленасцю, у Мінску быў падпісаны дагавор аб 10-гадовай праграме супрацоўніцтва паміж Украінай і Беларуссю.

### ТЭМП БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІХ АДНОСІН НЕ ЗНІЖАЕЦЦА

Не знізіўся на мінулым тыдні тэмп беларуска-расійскіх кантактаў. Перш за ўсё неабходна адзначыць правядзенне 9 снежня чарговага пасяджэння Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі і Расіі, якое прайшло пад старшынствам першага намесніка кіраўніка ўрада РФ Вадзіма Густава.

Галоўная задача, якая стаяла перад удзельнікамі Выканаўчага Камітэта, заключалася ў пошуку шляхоў пераадолення рэзкага скарачэння тавараабароту паміж дзвюма краінамі, якое назіраецца на працягу чатырох апошніх месяцаў. За гэты час аб'ём гандлю знізіўся амаль напалову. Відавочна, гэтая тэма была галоўнай і на перамовах В. Густава з Аляксандрам Лукашэнкам і Сяргеем Лінгам. Таксама вострa стаіць пытанне пагашэння ўзаемазапазычанасцей паміж беларускімі і расійскімі суб'ектамі гаспадарання.

Знаходжанне В. Густава супала з прыездам у Мінск губернатара Новасібірскай вобласці Віталя Мухі. Як вядома, некалькі месяцаў таму Аляксандр Лукашэнка быў у Новасібірску, пазнаёміўся з магчымасцямі гэтага буйнога сібірскага рэгіёна, багатага карыснымі выкапнямі і маючага вялікі эканамічны патэнцыял, і запрасіў яго кіраўніка наведаць Беларусь. Такім чынам, цяпер у Мінску было падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве ў гандлёва-эканамічнай, навукова-тэхнічнай і культурнай галінах паміж Беларуссю і Новасібірскай вобласцю. Бакі не сумняваюцца, што актыўны дыялог будзе мець узаемную карысць.

У галіне беларуска-расійскіх адносін адбыліся яшчэ дзве важныя падзеі. 17 снежня Аляксандр Лукашэнка правёў перамовы ў Маскве з Прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, а ў канцы тыдня Беларусь прыняла губернатара Санкт-Пецярбурга Уладзіміра Якаўлева.



16—18 снежня адбылася рабочая паездка ў Маскву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

*На здымку: у час сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з Прэзідэнтам Расіі Барысам ЕЛЬЦЫНЫМ.*



На форуме членаў "Клуба лідэраў гандлю", які праходзіў нядаўна ў Парыжы і сабраў прадстаўнікоў 112 краін свету, беларуска-амерыканскаму сумеснаму прадпрыемству "Белар-Дызайн" быў уручаны Міжнародны прыз Еўропы "За якасць". Так да найбуйнейшага ў Беларусі вытворцы дэкаратыўнай касметыкі і сродкаў догляду за скурай прыйшло і міжнароднае прызнанне.



*На здымку: прадукцыя фірмы "Белар-Дызайн" і міжнародны прыз — сімвал якасці.*




❄

У мінскім Палацы спорту завяршыўся Кубак Рэспублікі Беларусь па мастацкай гімнастыцы.

Перамогу ў абсалютным першынстве атрымала заслужаны майстар спорту Яўгенія Паўліна, на другім месцы — Таццяна Агрызка, на трэцім — Таццяна Белан.

На заканчэнне спаборніцтваў адбылося гімнастычнае шоу, у якім прынялі ўдзел мацнейшыя гімнасткі не толькі з Беларусі, але і з іншых краін.

Міс гімнастычнага шоу таксама была прызнана Яўгенія ПАЎЛІНА.

**Фотахроніка БелТА.**

# Аляксандр ТАЛСТОЙ: «У ГІСТОРЫІ ВАЖНА ПРАВІЛЬНА ВЫЗНАЧЫЦЬ КРОПКУ АДЛІКУ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Літвы і Латвіі, і гэтым народам удалося да XIV стагоддзя развівацца, умацоўваючы сваю мову і звычаі.

**— Дарэчы, калі размова зайшла аб носьбітах памяці, ці ёсць якая-небудзь рэліквія ці рытуал, які перадаецца ад пакалення да пакалення ў родзе Талстых!**

— Ёсць. У часы Пятра І Пётр Талстой атрымаў графскі тытул. Гэты чалавек адыграў не апошнюю ролю ў лёсе царскай сям'і. Ды і дзяржавы: быў накштапт міністра замежных спраў. Але пад канец жыцця трапіў у няміласць, быў сасланы ў правінцыю і дажываў свой век у глушы. Глыбока перажываючы жыццёвыя ўзрушэнні і імкнучыся аберагчы ад падобнага сваю сям'ю, Пётр Андрэевіч пачаў пісаць на Нараджэнне Хрыстова малітву, у якой прасіў абараніць блізкіх ад нягод. Апоўначы старыя ліст неабходна спаліць, а новы пакласці ў Евангелле і захоўваць там увесь год. Гэтая малітва заўсёды пераходзіла да старэйшага мужчыны ў родзе. Чацвёртым у гэтым ланцужку быў Леў Талстой, я — восьмы. Малітва перапісваецца асобым чынам: на папярэдні тэкст кладзецца чысты ліст, і літары абводзяцца. Не ўпэўнены, што почырк Пятра Андрэевіча захаваўся поўнасцю, але мы стараліся не змяніць яго.

**— Хто ж, на вашу думку, можа быць такой знакавай асобай для роду беларусаў!**

— Усяслаў Чарадзей. Мне здаецца, што ў вас недаацэньваюць язычніцкі перыяд. Не ўсё расшыфравана і ў "Аповесці мінулых гадоў". У гісторыі вельмі важна правільна вызначыць кропку адліку.

**— Наколькі поўна вам удалося рэалізаваць свае задумы тут, у Беларусі!**

— Мне давялося прыняць удзел у ажыццяўленні некалькіх важных, на мой погляд, адукацыйных і культурна-асветніцкіх праектаў. Галоўны — гэта стварэнне франкафоннага факультэта ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, садзеканам якога з'яўляюся цяпер. Паранейшаму займаюся лінгвістыкай і знаходжу разуменне ў захопленых людзей і тут, і ў Францыі. Вы, напэўна, ведаеце, што ў Парыжскім універсітэце, нашай новай Сарбоне, уведзена вывучэнне беларускай мовы і літаратуры? Да таго ж маладыя людзі нашых краін сталі часцей рабіць абменныя паездкі, а гэта самы зручны спосаб пашырыць уяўленне адзін аб адным. Ажыццёўлена шмат культурных праграм. Сталі традыцыйнымі французскія артыстычныя сезоны. Увогуле, жыццё ў Беларусі лічу цікавым і плённым.

**— Як доўга вы плануеце заставацца ў нашай краіне!**

— У Беларусі ў мяне ёсць абавязацельствы, якія павінен выканаць. Хачу дачакацца першых выпускнікоў, пераканацца ў выніковасці супрацоўніцтва беларускіх і французскіх вучоных, іншых пачынанняў.

**— Якой вы бачыце будучыню выпускнікоў франкафонных навучальных устаноў!**

— Спадзяюся, што яны ўвойдуць у беларускую эліту. Аказалася, што ў тутэйшых маладых людзей ёсць схільнасць да моў, вострыя розум, не засмечаны шаблонамі і забабонамі. Увогуле гэта натуральна для людзей, якія ўваходзяць у жыццё на мяжы двух эпох.

Гутарку вяла **Наталля ЦІМАШУК.**

КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

# ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

**● Ян ЛАХВІЧ.**

Несумненна, адной з прычын рашэння аб скасаванні Міністэрства знешніх эканамічных сувязей была неабходнасць зрухаў у галіне імпартна-экспартных адносін.

Цяпер у палітычных і гандлёвых прадстаўніцтвах Беларусі за мяжой з'явіўся адзін кіраўнік і гаспадар, на плечы якога ўскладзена задача — *развіць беларускі экспарт*, рэалізаваць патэнцыял краіны на замежных рынках, знаходзячы з сапраўдных магчымасцей айчыннай эканомікі. А як ідуць справы сёння?

Пакуль Міністэрства статыстыкі і аналізу, дзе акумулюруецца канчатковыя звесткі пра сітуацыю, у тым ліку і ў галіне знешняга гандлю, валодае толькі інфармацыяй за дзевяць месяцаў гэтага года. Абагульненыя звесткі пра кастрычнік і лістапад, калі ўздзеянне расійскага фінансавага крызісу было найбольш адчувальным, пакуль адсутнічаюць. Але лічбы студзеня — верасня дазваляюць прасачыць тэндэнцыі і характэрныя рысы знешнеэканамічнай дзейнасці беларускай дзяржавы.

Па выніках трох кварталаў аб'ём знешняга гандлю склаў 11 740,6 мільёна долараў ЗША. У параўнанні з тым жа перыядам мінулага года адзначаны рост на 3,5 працэнта. Таваразабарот з краінамі СНД дасягнуў 8 095,4 мільёна долараў, у тым ліку з Расіяй — 6 986,8 мільёна, з іншымі краінамі — 3 645,2 мільёна.

Агульны аб'ём айчыннага экспарту зарэгістраваны на ўзроўні 5 264,8 мільёна долараў, у тым ліку ў краіны СНД — 3 925,8, у краіны далёкага замежжа — 1 339 мільёнаў. Памер імпарту склаў 6 475,8 мільёна долараў: з краін Садружнасці пастаўлена тавараў на 4 169,6, з іншых краін — 2 306,2 мільёна долараў.

Абсалютныя лічбы даюць магчымасць вызначыць аб'ём беларускага гандлю з краінамі свету, перавагу імпарту над экспартам. А тэндэнцыі становішча відавочнымі пасля параўнальнага аналізу як з адпаведным перыядам мінулага года, так і з папярэднімі месяцамі гэтага. Толькі пасля становішча бачным сапраўднае становішча ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці.

Так, у параўнанні са студзенем — вераснем 1997-га экспарт беларускіх тавараў за дзесяць месяцаў гэтага года вырас на 1,7 працэнта (калі ў краіны СНД ён павысіўся на 5,3 працэнта, то за межы Садружнасці зменшыўся на 7,4 працэнта). У гэты час імпарт вырас у цэлым на 5 працэнтаў: з краін СНД — на 1, з дзяржаў далёкага замежжа — на 13,1 працэнта.

Няўстойлівае становішча ў знешнім гандлі пачало развівацца ў другой палове 1998 года. Як ужо падкрэслівалася, у пачатку яго быў адзначаны пэўны рост, але фінансавы крызіс у Расіі, які перакінуўся і на Беларусь, ускладніў сітуацыю. Напрыклад, знешнегандлёвы абарот у першым квартале 1998-га ў параўнанні з мінулым годам павысіўся на 18,6 працэнта, у другім — на 9,5, а ў трэцім зменшыўся на 14,7 працэнта. Што датычыцца экспарту, то дынаміка яго зніжэння была такой: у першым квартале на 22,1 працэнта, у другім — на 5,9, у трэцім — на 17 працэнтаў. Такім чынам, айчынны гандаль напрыканцы года страціў пазіцыі, якія былі заваяваны раней.

Сярод больш як 140 краін свету, з якімі Беларусь мае гандлёвыя сувязі, па адмоўнаму сальда "лідзіруе" Германія, у стасунках з якой памер імпарту перавышае экспарт у 3,7 раза. Моцны дысбаланс захоўваецца ў гандлі з Італіяй, Украінай, Польшчай, Літвой. І толькі ў адносінах з некалькімі краінамі перавага на беларускім баку: з Кітаем, Латвіяй, В'етнамам і некаторымі іншымі дзяржавамі.

Дарэчы, асноўнымі знешнегандлёвымі партнёрамі Беларусі на працягу некалькіх апошніх гадоў застаюцца Расія (59,5 працэнта ад агульнага таваразвароту), Украіна (7,4 працэнта), Германія (5,7 працэнта), Польшча (2,9 працэнта), Літва (2,3 працэнта), Італія (1,6 працэнта), ЗША (1,5 працэнта). У дзесятак дзяржаў, з якімі таваразабарот перавышае адзін працэнт ад агульнага, трапляюць Латвія, Нідэрланды і Вялікабрытанія.

Стан знешняга гандлю ўскладняецца яшчэ і вялікай колькасцю тавараабменных аперацый. За 9 месяцаў гэтага года ўдзельная вага бартэрных аперацый склала 32,6 працэнта ад агульнага аб'ёму экспарту і 26,7 працэнта ад памеру імпарту.

Магчыма, рост бартэрных аперацый адбываецца па той прычыне, што павысілася неплацежаздольнасць пакупнікоў па розны бакі мяжы. Гэта яшчэ адна важная падстава для роздуму пра сённяшні стан беларускай эканомікі.

НОВЫ ДЫСК



# ГАЛАСЫ З ПАЛЕССЯ ГУЧАЦЬ ПА СВЕЦЕ



**● Гражына КОСАЧ.**




Калі, жывучы ў ЗША, Канадзе, Англіі ці Ірландыі, вы ад кагосьці са знаёмых ці суседзяў пачуеце згадку пра горад Лунінец ці пра вёску Вулька, не здзіўляйцеся асабліва. Хутчэй за ўсё, ваш знаёмы — аматар народнай творчасці і набыў кампакт-дыск "Songs and music... from Belarus", які нядаўна пабачыў свет у Дубліне.

На дыску змешчана 17 народных песень, якія выконваюць не прафесіяналы, а самадзейныя артысты аднаго з куточкаў Палесся — Лунінеччыны. Гучаць на кампакце галасы дзетак з ансамбля "Сунічкі" Вулькаўскай школы, з узорнага калектыву "Паляшуцкія музыкі" Дварэцкай школы. Спяваюць і дарослыя артысты: Вольга Дударга, Людміла і Уладзімір Калянковічы.

Як трапілі галасы з Палесся ў далёкую Ірландыю? Пачыналася ўсё з... аздараўленчай праграмы. Лунінецкі раён адносіцца да пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС, і дзеці ездзілі ў Ірландыю на адпачынак па лініі фонду "Дзецям Чарнобыля". Прыязджалі на Палессе і прадстаўнікі дабрачынных арганізацый адтуль. Сярод "шэфаў" быў Джэрэмі Кастл, дырэктар Шэнанскага лінгвістычнага цэнтра, які вельмі цікавіцца музычным фальклорам народаў свету. Аднойчы пачуўшы спевы лунінецкіх артыстаў, ён быў вельмі ўражаны іх майстэрствам. І ў сакавіку гэтага года вярнуўся ў Лунінец з гукаапаратамі і адпаведнай апаратурай. За два дні яны запісалі на месцах увесь матэрыял для кампакта.

Аналагічных кампакт-дыскаў з запісамі нашых самадзейных артыстаў няма нават у Беларусі, не толькі за яе межамі. Таму, калі дыск быў выпушчаны, Джэрэмі Кастл прэзентаваў яго пасольствам нашай рэспублікі ў вышэйзгаданых краінах. А нядаўна спадар Кастл завітаў у Мінск, дзе прадставіў вынік сваёй працы ў Міністэрстве адукацыі і Дзяржкамдруку. Ён расказаў падчас сустрэчы пра дзейнасць дабрачынных арганізацый на яго радзіме. На пытанне, ці збіраецца ён прадоўжыць пачатую справу (усё ж адна Лунінеччына не можа цалкам стварыць уяўленне пра Беларусь), спадар Кастл зазначыў, што ўсё залежыць ад поспеху першага дыска. І тут жа дадаў, што ён асабіста ў гэтым поспеху не сумняваецца. Так што можна спадзявацца, што ў хуткім часе Еўропа пачуе галасы і з іншых куточкаў нашай Беларусі.

Распаўсюджвацца кампакт будзе сярод дабрачынных арганізацый і на еўрапейскіх музычных рынках. Усе даходы ад яго продажу пойдуць на рэалізацыю аздараўленчай і культурнай праграмы ў дзіцячых установах Беларусі.

Сам дыск, выдатна аформлены, можа паслужыць нядрэннай візітоўкай нашай краіны. Унутры яго вокладкі на англійскай мове змешчаны звесткі пра Беларусь, пра Палессе, аварыю на ЧАЭС, беларускую музычную культуру.

А на вокладцы ўсміхаюцца ўсяму свету дзяўчаткі з ансамбля "Сунічкі", несучы вестку аб тым, што ёсць на зямлі такая краіна — Беларусь.

## «КАЗКІ ДЗЯЦЕЙ БЕЛАРУСІ»

Незвычайная кніга "Казкі дзяцей Беларусі" выдадзена на англійскай мове. Яе выпусціў Беларускі фонд сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям" сумесна з выдавецтвам "Юнацтва".

Як паведамілі ў фондзе, фінансавую падтрымку ў ажыццяўленні гэтага праекта аказалі яго амерыканскія партнёры са штата Тэхас.

Кніга "Казкі дзяцей Беларусі" з'явілася ў выніку конкурсу пад назвай "Усім па казцы", які тры гады таму правёў фонд "Мы — дзецям". У яе ўвайшлі 57 казак, напісаных беларускімі дзецьмі на рускай і беларускай мовах. Цяпер жа гэтыя творы змогуць прачытаць і іх равеснікі ў іншых краінах.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ,

● **Радок з пісьма**

*Здарылася так, і я дзякую за гэта лёсу, што ў апошнія гады ў мяне склаліся вельмі добрыя адносіны і плённае супрацоўніцтва з газетай "Голас Радзімы".*

*Спадзяюся, што змена кіраўніцтва ніякім чынам не адаб'ецца на маіх узаемаадносінах з газетай, якую я вельмі паважаю і люблю. Тому дасылаю два сваіх новых вершы. Калі падыдуць, буду вельмі рады.*

З павагай
**Г. АЎЛАСЕНКА**
г. Чэрвень.

* * *

**Ірвуцца з комінаў**
**калматыя дымы,**
**Ім завіруха**
**штосьці падпявае...**
**Хіба яшчэ на свеце**
**што бывае,**
**апрач**
**халоднай гэтае зімы!!**
**Вясновы сад,**
**што пенай закіпае,**
**сунічны**
**спелы водар**
**у барах**
**І восені**
**тужлівая пара —**
**мне вас усіх**
**зімою не хапае...**
**Тут толькі снег...**
**Тут толькі сум**
**ды скруха...**
**А ўлетку**
**не хапае мне...**
**зімы...**
**Дзе рвуцца з комінаў**
**халодныя дымы**
**І песню ім**
**спявае завіруха...**

* * *

**Ніхто распарадак зямны не парушыць,**
**І нам ад яго не схавацца нідзе...**

**За летам халодная восень ідзе...**
**Зіма завірухай зямлю зацярушыць...**
**І лёд паплыве па вясновай вадзе...**
**І бэз зацвіце...**
**І асыплюцца ружы...**

**Ніхто распарадак зямны не парушыць...**
**І нам ад яго не схавацца нідзе...**

## ВІНШАВАННІ З НОВЫМ ГОДАМ І КАЛЯДАМІ

**Віншую ўсіх з надыходзячым Новым, 1999 годам! Жадаю багатырскага здароўя, шчасця...**

**Желаю всем, чтоб счастья было много,**
**чтоб радость спутницей была.**
**Чтобы всегда на жизненной дороге**
**хватало всем и ласки, и тепла.**
**Чтобы везло в любом полезном деле,**
**и не летели быстро так года,**
**чтоб голова от горя не седела,**
**и сердце не старело никогда.**

**Дарагія, найлепшыя пажаданні ляцяць да вас.**
**Віншую яшчэ раз усіх.**

**Лідзія ПІНЧУК.**
Іспанія.

* * *

**Паважаная рэдкалегія газеты "Голас Радзімы", супрацоўнікі газеты, чытачы за мяжой і на Радзіме, сардэчна віншую з Нараджэннем Хрыстовым і Новым, 1999 годам! Жадаю поспехаў ва ўсіх справах, моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця, а нашай Радзіме працвітання.**

**Ваша газета з'яўляецца для мяне своеасаблівай крыніцай інфармацыі пра нашу Айчыну. Чытаючы газету ўжо многа гадоў, я папоўніў свае веды аб гісторыі і культуры майго народа. Вашы артыкулы і нарысы на гістарычныя тэмы, артыкулы аб гісторыі культурнай спадчыны адкрылі мне зусім новы свет, тое, што некалі ад нас утойвалі.**

**Вашу газету чытаем з вялікай цікавасцю. Знаёмлю сваіх землякоў з матэрыяламі, абмяркоўваем, што адбываецца ў Беларусі. Вельмі радуемся яе поспехам.**

**Жадаю, каб у 1999 годзе "Голас Радзімы", як і раней, нёс сваім суайчыннікам за рубяжом весткі з Радзімы. Давайце больш інфармацыі аб сучасным жыцці нашага народа і дзяржавы.**

**Жадаю вам новых поспехаў у працы. Чакаем кожны нумар з нецярпеннем. З павагай**

**Фёдар СІНЮК.**
Украіна.

* * *

**Вялікае ўсім прывітанне і віншаванні з Калядамі і Новым, 1999 годам!**

**Дарагія мае, дзякуй, што не забываеце мяне.**
**Усяго самага лепшага вам і роднай Беларусі!**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**
Італія.

* * *

**Гурт беларускай культуры "Зорка Венера" шчыра вітае ўсіх супрацоўнікаў газеты "Голас Радзімы" і яе заснавальнікаў: Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ, таварыства "Радзіма", Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, шматлікіх чытачоў газеты ў замежжы і на Бацькаўшчыне з Калядамі і Новым, 1999 годам!**

**Зычым усім моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у справах!**

***Ад імя гурта — яго кіраўнік Пятрусь КАПЧЫК, член вялікай рады ЗБС "Бацькаўшчына", член рады старшынь беларускіх нацыянальна-культурных супольнасцей Украіны.***

## СЛОВА ДА БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ



Урачыстасць Божага Нараджэння — самае сямейнае рэлігійнае наша свята. Якую чароўную моц яно мае! Колькі яно натхняла паэтаў, і нас можа здзіўляць колькасць песень, вершаў як прызначаных для богаслужэнняў, так і створаных народам. А якія цудоўныя традыцыі яго святкавання — як пераняtыя ў іншых народаў, так і народжаныя нашым!

Рэлігійны стол, дзе пад абрусам — сена, якое нагадвае нам, што Збаўца нарадзіўся на сене, апотак на стале, белы просты хлеб, які прыгадвае Хрыста, пераменёнага для нас у Эўхарысціі, і мы складаем самыя шчырыя зычэнні адзін аднаму. Запаленая свечка на стале паказвае Божай сям'і — Язэпу і Марыі, што ў гэтым доме ёсць для іх месца і не трэба шукаць беднага хлева для нараджэння Езуса. Адно вольнае месца за сталом...

Прыйдзі, Божа, прыйдзі, чалавеча, у якім жыве Хрыстос, будзь з намі!

Ці ж такая сардэчная, шчырая атмасфера не растопіць лёд самага цвёрдага сэрца? О, гэта сапраўды цудоўная ноч, якая можа перамяніць чалавека, сям'ю, грамадства, каб знікла з нашага жыцця подласць, прыземленасць, каб чалавек зразумеў сваю годнасць. Бо для яго нарадзіўся Бог. Ён становіцца чалавекам для збаўлення чалавека.

Усім суайчыннікам і чытачам "Голасу Радзімы" жадаю, каб цеплыня Божага Нараджэння ўвайшла ў кожнае сэрца, у кожную сям'ю і кожны дом! Зычу светлага шчасця, здароўя і дабрабыту!

*k. Michał Sopel*

**Ксёндз Міхал САПЕЛЬ,**
*пробашч касцёла Святога Роха на Залатой Горцы ў Мінску.*

# «БЕЛАРУСКІ ПАДВОРАК»



*Дырэктар лепельскага Дому рамёстваў знаёміць з майстрамі і іх творчасцю.*

*Трэба дома бываць часцей.*
*Трэба дома бываць ня госьцем,*
*Каб душою ты стаў чысьцей*
*І ня страціў сьвятое штосьці.*

Не маюць магчымасці беларусы Эстоніі і Нарвы, у прыватнасці, у наш час бываць часцей дома. Вядома, што не трэба тлумачыць, як чалавеку цяжка на чужыне без роднага кута, без мовы матулі, без сваіх каранёў, чым кожны змалку сілкуецца.

Тым больш цяжка чалавеку, які не адхіснуўся ад сябе самога і ведае хай не "да пятага калена" радавод свой, але ж памятае, хто ён, адкуль.

Таму думка прыцягнуць да сябе кавалачак Радзімы не пакідала "Спадчыну" амаль што з першых дзён існавання. І вось пасля трох месяцаў перамоў і падрыхтоўкі ў Нарвскай мастацкай галерэі быў створаны "Беларускі падворак". Як вядома, на падворку ля невялічкай хаціны ці каля заможнага маёнтка праходзіць частка жыцця чалавека з яго радасцямі і горам, думкамі і справамі. На "Беларускім падворку" ў Нарве была прадстаўлена творчасць дзяцей нядзельнай школкі, куток беларускай хаты ў Нарве і — галоўнае — мастацтва майстроў лепельскага Дома рамёстваў: кірмаш народнай творчасці з гульнямі, абрадамі, таксама фальклорныя спевы, выстава мастакоў Лепельшчыны і — што болей усяго прыцягнула нарвічан — майстар-класы, у якіх кожны жадаючы мог даведацца пра асновы найбольш распаўсюджаных на Беларусі рамёстваў: ткацтва, пляценне паясоў, пляценне з лазы і стружкі, выцінанкі, састаўленне абрадавых кампазіцый, кераміка.

Водгукі наведвальнікаў — красамоўнае сведчанне таго, як людзі аднесліся да такога незвычайнага мерапрыемства. Вось некаторыя:

"Ад імя эстонскай суполкі г. Нарвы ўсім добрым людзям шчырыя словы ўдзячнасці за гэтае цудоўнае свята народнага мастацтва.

І хай Бог вам пашле поспехаў творчых, здароўя і ўсіх даброт чалавечых.

З павагай Яан Ліндэ — старшыня эстонскай суполкі і намеснік загадчыка аддзела культуры".

"Мерапрыемства цудоўнае. Усё радуе вока. Уздымаецца настрой. Хочацца жыць. Больш бы падобнага ў наш складаны цяжкі час".

"Дзякуй за тое, што вы захоўваеце сваю культуру ў наш цяжкі час. Рабіце і стварайце свае цуды і паказвайце ўсяму свету. Поспехаў, шчасця ўсяму вашаму народу. Чакаем вас у Нарве".

"Было здарова!

Дзякуем за ўсё.

Вы вельмі таленавітыя людзі!

Прыязджайце! Прывозьце новыя работы! Гэта так цудоўна, калі чалавек з творчай душою, калі ён можа рабіць такія рэчы, што падабаюцца людзям і кранаюць да глыбіні душы. Незвычайна, што можна самому ў вас павучыцца і пачаць штосьці рабіць.

Вельмі добра, што вы не згубілі сваю культуру, свае традыцыі і звычкі. Я вельмі ўражана! Вялікае дзякуй за ўсё. З любоўю Пяхклімяэская гімназія, 8 клас і Віка".

"Вялікае дзякуй за падтрымку беларускага аб'яднання ў Нарве прадстаўнікам з гістарычнай радзімы. Гэта цудоўна, калі 7 дзён у Нарве быў створаны куток беларускага духу, творчасці, сяброўства. Нам, татарам, вельмі прыемна. Дзякуй вам.

Старшыня татарскай суполкі Рашыд Ізмайлаў".

"Дзякуй за вашу працу. Нам вельмі спадабалася вучыцца ў вас. Выхавальнікі і дзеці д/с № 32".

# ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

## НА КОНКУРС «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

● **Зінаіда ЖУКОЎСКАЯ,** *настаўніца, член літаратурнага аб'яднання "Нёманец" пры газеце "Чырвоная зорка" пасёлка Узда Мінскай вобласці.*

* * *

**Зноў вяртаюцца дадому гусі**
**З тых далёкіх чужых краін**
**На прасторы мілай Беларусі,**
**Да лясоў, рачулак і рабін...**

**І садзяцца на лугі ў знямозе,**
**Прывітанне шлюць сваёй зямлі,**
**А яна да іх ідзе ў трывозе,**
**Птушкі гэта ведаць не маглі.**

**Родная зямелька стогне, плача, —**
**Яе смог чарнобыльскі накрыў.**
**Пэўна, Бог нас пакараў, няйначай,**
**Нашу радасць кінуў пад абрыў.**

**Столькі ранаў у зямлі балючых!**
**Столькі горкіх і жахлівых сноў!**
**Лекар-час, дай зёлкаў ёй гаючых,**
**Падбяры замову з добрых слоў.**

***Сэрца, не трымці, не плачце, вочы!***
**Божа міласцівы, памажы!**
**І няхай трывога дні і ночы**
**Не стаіць сурова на мяжы!**

**Каб вярталіся дадому гусі,**
**Плывучы над квеценню садоў,**
**І прасторы роднай Беларусі**
**Іх заўсёды вабілі дамоў!**



*У матулі маёй даўняй знаёмай мінчанкі Клаўдзіі Лабчэўскай, супрацоўніка Навукова-даследчага інстытута праблем культуры, дзень нараджэння 3 студзеня. І да яе сямідзесяцігоддзя дачка напісала спецыяльны сцэнарый свята, сабрала ўсіх сваякоў і сама правяла тую вечарыну, пра якую дагэтуль у гарадскім пасёлку Антопаль, што на Брэстчыне, памятаюць, хоць ужо некалькі год прайшло. Усё было на той вечарыне: успаміны, шчырыя і вясёлыя тосты, гучалі песні і вальс для імяніннніцы... І была святочная ёлка, такая ж самая, з такімі ж упрыгажэннямі, што і шмат гадоў назад, калі Клаўдзія была малой.*

*Люблю слухаць яе ўспаміны, бо расказвае аб тым часе з замілаваннем. Родны дом, маці падарылі тое цяпло і святло, што помняцца дагэтуль і прымушаюць душу яе на крылах ляцець туды. І не ўпускаць любой магчымасці, каб часцей бываць у родным доме. А калі атрымаецца Новы год ці Каляды разам сустрэць...*

## ДУШОЮ СТАЦЬ ЧЫСЦЕЙ...

Гэта такое свята для душы маёй, — прызнаецца Клаўдзія. — З цягам часу я асабліва зразумела, які шчодры і творчы чалавек мая маці. Пры тых нястачах і бедах, што выпалі ёй у жыцці, яна заўсёды, як бы ні было цяжка, ладзіла нам, дзецям, святы. Памятаю, вялікай спакусай для мяне былі ёлачныя цацкі ў нашым магазіне "Культтавары" — ліхтарыкі з надпісам "Масква—Пекін" (гэта было ў 50-я гады, самы росквіт савецка-кітайскай дружбы), рознакаляровыя бліскучыя шары, прыгожыя снягуркі... Я магла гадзіну-дзве стаяць ля вітрыны і глядзець на ўсё гэтае хараство, але купіць не магла, бо грошай у сям'і на гэта не было. І ўсё ж наша ёлка ў рэшце рэшт аказвалася прыгажэйшай, чым у суседзяў. А ўсё дзякуючы матулі — яна з саломкі, паперы і фальгі такія ўпрыгажэнні ёлачныя рабіла — проста цуд! Маленькія падвесы-павукі, птушачкі, ланцужкі з саломкі на зялёнай хвоі глядзеліся асабліва прыгожа.

Ну і, вядома, на стале святочным былі "каўбасы, пальцам пханыя", "крывянка запечаная", "сальцысон" (у нас ён так завецца), аўсяны кісель з сушанымі грушамі... Усё гэта і цяпер, нягледзячы на ўзрост, маці гатуе. А ўменне саламяныя ёлачныя цацкі рабіць пераняла ад яе мая малодшая сястра.

Я не была прыгожай дзяўчынкай і асабліва востра перажывала з тае прычыны на школьных святах. І вось неяк маці вырашыла качаня пераўтварыць у прынцэсу: пашыла мне з марлі бальную сукенку — амаль такую ж самую, як на малюнку ў кніжцы пра Папялушку. Накрухмаліла яе, упрыгожыла рэшткамі бітых ёлачных цацак, што ў магазіне выпрасіла. Маці дасягнула мэты, бо я была самай прыгожай дзяўчынкай на тым навагоднім ранішніку. А значыць і самай шчаслівай! Мо таму, калі сама ўжо стала маці дваіх сыноў, я ніколі не шкадавала часу і вачэй сваіх (хаця зрок у мяне вельмі кепскі) на тое, каб самой шыць маім дзецям навагоднія карнавальныя касцюмы для ранішнікаў у садзіку, а потым ужо і ў школе.

І яшчэ адну святочную вопратку пашыла і вышыла ўласнымі рукамі маці для мяне — нацыянальны сцэнічны строй, у якім я вяду святочныя праграмы і канцэрты. У ім я сама сабе даспадобы, і гэта мне надае ўпэўненасці.

З шчаслівых святочных дзён майго дзяцінства памятаю і тое, як дарослыя, збіраючыся на Новы год ці Каляды, расказвалі розныя гісторыі, небыліцы, прадказанні, ад якіх нам станавілася то весела, то страшна... А бывала, што жартачкі вулічныя сяму-таму з суседзяў прыносілі клопат: то ўвесь плот, засыпаны снегам, здымуць і кудысьці знясуць, то толькі браму. А асабліва квапнаму, злому мужыкі помсцілі тым, што ў самы канец вуліцы зносілі з сядзібы туалет.

З мяне, даверлівай, дзеці таксама смяяліся: "Глядзі на месяц, глядзі на месяц — там брат брата на вілах трымае"... Потым далей: "Хопіць, не глядзі, а цяпер языком да санак дакраніся..." Дакранулася — язык так прыліп да халоднага жалеза, што сусед ледзь змог мяне вызваліць.

З калядных і навагодніх гаданняў запомнілася, як дзяўчаты аладкі пяклі і кідалі на двор: чыю сабака першым схопіць, тая дзяўчына першай замуж пойдзе. А то зерне рассыпалі па хаце і пеўня пускалі... Кідалі боты праз хату, каб паглядзець, у які бок паляцець — у тую вёску замуж возьмуць. Хлопцы часта жартавалі — лавілі і хавалі тыя дзявочыя боты.

Шкада, што шмат чаго з цікавых традыцый нашых згублена, забыта, але сёе-тое дагэтуль бытуе. На Каляды і цяпер любяць пераапранацца (радзіца) — мужчыны ў жаночую вопратку, а жанчыны, наадварот, у мужчынскую, яшчэ і вусы напеняць ці намалююць. Апошнім часам і ў родных маіх мясцінах цікавасць да мінуўшчыны расце — гэта вельмі радуе, бо трэба ж мець і нешта сваё, адметнае. Нашы продкі ўмелі не толькі добра працаваць, але і вольны час бавіць, святы святкаваць.

Толькі з гадамі, у сталасці, нам дадзена зразумець: усё лепшае, светлае, што ў нас ёсць, даравана нам бацькоўскім домам. І мы цягнемся да яго цяпла і святла, нават ужо маючы свой уласны дом і сям'ю. Мой старэйшы сын Андрэй, які не жанаты яшчэ, але жыве самастойна, першую гадзіну Новага года сустракае з намі, а ўжо потым ідзе ў сваю кампанію. І я рада, бо ўся сям'я разам. Дай Божа, каб і надалей так было!

**Ганна ЧАРНОВА.**

# У ЭСТОНІІ

На базе "Беларускага падворка" быў арганізаваны гарадскі семінар для настаўнікаў працы, выяўленчага мастацтва, сусветнай мастацкай культуры, музыкі і для выхавальнікаў дзіцячых садоў. "За 7 дзён тут людзей было болей, чым наведвальнікаў ва ўсёй мастацкай галерэі за месяц", — адзначыла загадчыца галерэі Карына Тайдрэ.

Засталіся фотаздымкі, відэазапісы паездак, свята і майстар-класаў для нашай нядзельнай школкі, але галоўнае — дзелавыя і сяброўскія сувязі з лепяльчанамі.

Для нас важна, што праект быў падтрыманы Міністэрствам культуры Беларусі і фінансаваўся Міністэрствам культуры Эстоніі і фондам Kultuurikapital.

"Спадчына" выказвае падзяку ўсім людзям, якія дапамагалі арганізоўваць, былі разам і працавалі пробач.

Але нашы госці з Беларусі не толькі самааддана працавалі на "Беларускім падворку". "Спадчына" арганізавала з мэтай азнаямлення з Эстоніяй экскурсіі ў Тойла-Ору і Курэмяэ (у Пюхціцкі манастыр, дзе былі прыняты па багаслаўленню ігуменні матухны Варвары).

Выдатным гідам па знакамітых мясцінах Эстоніі ад Нарвы да Таліна быў У. Дзехцярук. Нягледзячы на тое, што ён не эстонец, ён ведае так дасканала Эстонію, яе гісторыю, сучаснасць, паданні, легенды, жыццёвыя факты, як апантаны вандроўнік, паэт і пісьменнік, чалавек шырокага кругагляду Уладзімір Дзехцярук. Дзякуючы яму, мы пабывалі ў Лахемааскім запаведніку, сядзібе ў Палмсе, у Пуртсэ каля мемарыяльнага комплексу дэпартаваным эстонцам. Палюбаваліся знакамітым эстонскім вадаспадам на рацэ Ягала, недалёка ад Таліна. Захапляючая вандроўка была па старым горадзе. Спадзяёмся, што, нягледзячы на тыповае вільготнае надвор'е Балтыі, на стому, вандроўнікі былі задаволены. Тым больш, што і ў Йыхві, і ў Таліне іх чакаў цёплы прыём суайчыннікаў.

У Йыхві сустракала суполька БЭЗ, а ў Таліне прыём арганізаваў сам генеральны консул Іван Бондар разам з беларусамі.

Такім чынам, нашы госці пазнаёміліся не толькі з Нарвай і "Спадчынай", яе актыўнымі членамі і сябрамі, але і з землякамі, якія жывуць па ўсёй Эстоніі.

Вялікі праект "Беларускі падворак" мэты сваёй дасягнуў.

Пачатак пакладзены добры. "Спадчыне" ўдалося распрацаваць, абараніць і ажыццявіць свой праект: знайсці падтрымку двух міністэрстваў культуры, гарадскіх улад, весці перамовы з беларускім консульствам і эстонскім пасольствам, зацікавіць і парадаваць беларусаў, людзей розных нацыянальнасцей. Беларуская народная творчасць у шырокім маштабе і на вышэйшым узроўні была прадстаўлена лепяльчанамі. Але ж "Спадчына" была побач, разам, як часцінка Радзімы і адарваны ад яе кавалачак. Цеплыня сэрцаў сапраўды сагрэла паўночныя душы. Нездарма адна дзяўчынка напісала ў кнізе водгукаў: "Вялікае дзякуй. Прыязджайце ў Нарву. Мы вас любім!"

**Таццяна КАРАТКЕВІЧ,**
*старшыня беларуска-эстонскага культурна-асветніцкага аб'яднання "Спадчына".*



*Мінск зімні.*

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

**НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

***Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА***



*У. Караткевіч (1950 год).*

— Муза Яўгенаўна, ва ўсе часы студэнцкая аўдыторыя была і застаецца вельмі рознай. У ёй, як правіла, вызначаюцца пэўныя сімпатыі і некаторыя сумненні ў адносінах адно да аднаго. Больш таго, за 5 гадоў усё можа стаць, як кажуць, з ног на галаву. Як складваліся гэтыя ўнутраныя адносіны студэнтаў на вашым курсе? Да каго быў бліжэй Караткевіч?

— Вядома, што ў тыя гады афіцыйна курс не мог падзяляцца на нейкія групы. Грамадская думка дазваляла адзіны прынцып савецкага студэнцтва: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Але ж вы разумееце, не могуць 60 чалавек быць маналітам. Кожны прыйшоў ва універсітэт са сваім жыццём. Сярод нас былі і ўдзельнікі вайны, і проста "зялёныя школьнікі". Адны па-сапраўднаму былі апантаныя навукай, а іншыя апынуліся тут таму, што трэба было пасля школы паступіць у нейкую ВНУ. Дарэчы, курс наш у асноўным жаночы (філалогія і ў тыя часы не была ў гэтым сэнсе выключэннем), хлопцаў займалася ўсяго 8 чалавек. І, сапраўды, ужо к 3-му курсу ў нас утварыліся групы. Тое адбылося само сабою, і я сказала б нават, непрыкметна для ўсіх. Гэта быў натуральны ход жыцця.

Напрыклад, 5 дзяўчынак (і я ў тым ліку) спявалі ў тэатралізаваным ансамблі народнай песні, які быў створаны ў 1949 годзе на нашым курсе Святланай Святлічнай, удзельніцай вайны. З цягам часу гэты калектыў набыў статус універсітэцкага, у ім спявалі студэнты розных факультэтаў — 30-35 чалавек. Ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод студэнтаў. Дык вось нас, пяць аднакурсніц, чамусьці называлі "Саюз старых дзевак". Хаця мы ўсе сябравалі з хлопцамі, але... гэтая назва так і засталася за намі да канца вучобы.

Выдзелілася на курсе і група аднадумцаў: Валодзя Караткевіч, Фларыян Няўважны, Валодзя Хеляmembers Хелямендзік, ВалянцінЛіннік, Коля Карнаух, Юра Юрчанка, і яшчэ да іх далучалася Наташа Чэпур. На курсе лічылася, што яны ўсе дужа разумныя, адукаваныя. Мала таго, што пастаянна хадзілі ў чытальную залу, дык яшчэ і чыталі "што не патрэбна".

Гэта сённяшнім студэнтам шмат даступна. А тады асобныя кнігі класіфікаваліся як "ідэалагічна няправільная літаратура", і знайсці іх было няпроста. Таму, канешне, калі адзін даставаў — чыталі ўсе. А потым абмяркоўвалі глыбока, філасофскі, дакопваючыся да сутнасці. Гэта, сапраўды, была моцная інтэлектуальная група нашага курса. Яны на ўсе пытанні заўсёды мелі свой незалежны пункт гледжання.

Некаторыя з іх самі спрабавалі пісаць: Валодзя Караткевіч, Валянцін Ліннік, Валодзя Хелямендзік і інш. Аднак ніхто, акрамя Караткевіча, не друкаваўся. Гэта вельмі і вельмі складана. Зрэшты, Валянціна з Валодзем ядналі роднасныя творчыя душы. Яны падоўгу абмяркоўвалі літаратурныя праблемы на перапынках, у курыльні. Іх гэта ўсё вельмі зблiжала. Яны абодва пісалі і вершы, і прозу. Валодзя, калі яго прасілі на якім-небудзь вечары пачытаць — рабіў гэта з задавальненнем. Валянцін — не. Караткевіч, мне думаецца, не чакаў нейкага нашага прысуду, яму проста патрэбны быў слухач. Ён не мог сваё напісанае кудысьці схаваць, не паказаць нам. Валодзя Хелямендзік піша і зараз. Чалавек з вельмі складаным лёсам, высокай маралі і прынцыповасці. Калі выйшаў поўны збор твораў Караткевіча, я прынесла Хелямендзіку. Ён усё прачытаў, усё прааналізаваў і сказаў мне: "Якая глыбіня!" А пасля ўсё бедаваў, чаму ён гэтай глыбіні ў Караткевічы не распазнаў яшчэ ва універсітэце...

Я, магчыма, яшчэ раз паўтаруся, але, сапраўды, мы, аднакурснікі, шмат чаго ў Валодзі не разгледзелі, не прыкмецілі, не зразумелі. Усё ўспрымалася неяк несур'ёзна, жартам. Ці маглі мы тады дапусціць думку, што вучымся разам з будучым пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам?.. Канешне, не... Хто рыхтаваў сябе ў педагогіку, хто ў навуку. Але ідэалагічная атмасфера курса, факультэта, як лакмусавая паперка, праяўляла адносіны людзей, вызначала іх учынкі.

— І, мусіць, не так проста было вам, студэнтам 50-х, разабрацца на той час у каштоўнасцях сапраўдных і надуманых? І гэта таксама ўплывала на вашы ўзаемаадносіны? Як трымаў сябе Караткевіч?

— Я вяртаюся на першы курс. Усе мы тады былі камсамольцы — а як інакш? І з самага пачатку вучобы пачалі вылучацца актыўныя, пасіўныя... Я не магу сказаць, што Караткевіч быў актыўным камсамольцам. Але актыўным каментатарам на сходах — так. Ён пастаянна пакеплiваў з іх уяўнай сур'ёзнасці. Аднак, калі яго прасілі зрабіць нешта канкрэтнае, ён не адмаўляўся. Капаць грады? — Калі ласка. Цэглу цягаць? — Калі ласка. Мы самі разбіралі разбураную ў час вайны частку будынка універсітэта. Ездзілі і на нядзельнікі. Неяк не прынята было ў нас на той час казаць: "Я хворая, у мяне даведка". Мы працавалі ўсе разам і не падзяляліся на сваіх і чужых.

Помню, ездзілі ў Пушчу (саўгас "Вінаградар" ля Кіева) — далёка, цесна стоячы ў трамваі, бо нас шмат. І праз усю дарогу — жарты, анекдоты, прымаўкі. Голас Караткевіча чуваць лепш іншых. Даводзілася і траншэі капаць, і вінаград збіраць, а пасля з апетытам есці. Валодзя быў добры работнік. І еў ён таксама добра. Але, што цікава, пісаць артыкулы пра тое, як прайшоў камсамольскі суботнік,..

— Караткевіч не мог?

— Не мог і ніколі гэтага не рабіў. Валодзя ўжо на першых курсах разумеў больш, чым мы. Ён нутром адчуваў, што грамадства ідзе не туды, шмат робіцца не так.



*Уладзімір. Караткевіч з аднакурснікамі ў Кіеве (1952 год).*

Мне згадваецца зараз, як на 5-м курсе ў нас пачалося масавае ўступленне ў партыю. З 60-ці чалавек больш дзесяці сталі членамі КПСС. Вы ж разумееце, якое значэнне на той час мела партыйнасць для выпускнікоў ВНУ. У нас тады праходзілі вельмі бурныя сходы. Рэкамендацыі абмяркоўваліся абсалютна сур'ёзна, некаторымі студэнтамі — надзвычай прынцыпова. І гэта, зрэшты, станавілася нават прычынай канфліктаў паміж аднакурснікамі. Афіцыйна найперш улічвалася, які з цябе грамадскі дзеяч, а пасля ўжо — што ты ўяўляеш сабою як будучы спецыяліст. У вызначэнні прыстойнасці вылучаемых асоб таксама меліся вялікія разыходжанні. Таму дэбаты нашы часта зацягваліся да глыбокай ночы. Мы тады перавыбралі камсамольскага групорга, якога толькі што абралі — тым самым парушылі статут, бо нават не папярэдзілі камітэт камсамола універсітэта.

Я што гэтым прыкладам хачу сказаць? Супрацьдзеянне той палітычнай сістэме ў нас к 5-му курсу ўжо сфарміравалася. Канешне, не ва ўсіх, а ў такіх, як Караткевіч. Ужо тады вызначылася ў Валодзі прынцыповая лінія паводзін: я яго не паважаю, я з ім не кантактую, я з ім не размаўляю. Не ў сэнсе: пайду і адвярнуся, не. Проста — ён мне нецікавы. І з таго часу такая лінія паводзін у Валодзі засталася. Я маю на ўвазе не пісьменніцкі асяродак у вас на Беларусі ці іншых яго знаёмых, а аднакурснікаў. Я не магу сказаць, каб ён кагосьці да такой ступені зненавідзеў, што не хацеў з ім нават убачыцца. Ён увогуле, на маю думку, быў чалавекам вельмі назіральным і пранiклівым, але не настолькі гарачым, каб адразу выказаць першае ўражанне пра новага знаёмага. Ацэнка чалавечых якасцей фарміравалася ў яго пастунова, з цягам часу, на падставе фактаў. І, мусіць, Валодзя ў людзях мала памыляўся. З усяго кола сяброў, якія вызначыліся ў яго ў студэнцтве, на паверку ў далейшым жыцці ўсе яны засталіся добрымі людзьмі. Сярод іх не аказалася здраднікаў.

— Муза Яўгенаўна, што ўсё ж было галоўным для Караткевіча падчас вучобы ва універсітэце? Што ратавала яго ў фальшывым ідэалагічным асяроддзі, якое ён адчуваў, як вы самі казалі, больш абвострана, чым іншыя?

— У Валодзі ў студэнцтве не было роўнай гладкай дарогі. Але нельга назваць яго студэнцкае жыццё і канфліктным. Думаю, што ў тыя часы Валодзю ратавала навука. Ён паглыбляўся ў старажытнасць, фальклор. Нам нядрэнна выкладалі гэты прадмет. Але спецыяльна для сябе ніхто, акрамя Караткевіча, яго не вывучаў. Для Валодзі гэта было жыццё народаў, асобных постацей. Пазней, рыхтуючыся да паступлення ў аспірантуру, ён пісаў тры рэфераты, і два з іх, трэба адзначыць, звязаны з фальклорам ("Казкі пра паноў у рускім фальклоры", "Анчар" Пушкіна і "Дрэва смерці" ў беларускім фальклоры"). Ён тады сам збіраў фальклор, вывучаў, аналізаваў, перажываў разам з героямі фальклорных твораў. Ужо на той час ён пачаў супастаўляць фальклор рускі, украінскі, беларускі. Часта на нашых імпрэзах пераказваў асобныя рэчы. Аднак успрымалася гэта зноў жа як... дзівацтва ці што.

— Несур'ёзна?

— Ім сур'ёзна, намі — не. Мы казалі: "Яму, мусіць, рабіць няма чаго". Разумееце, гэта стыль такі быў. Калі мы паступілі ва універсітэт, думка пра навуку як далейшы твой лёс займала нямногіх. Наўрад ці і Караткевіч марыў пра навуку як пра кар'еру. Тое прыйшло, магчыма, пазней. Але ім заўсёды кiравала цяга да ведаў глыбокіх, дасканалых. Помню, лацінь ва ўсіх нас выклікала цяжкасці, старажытныя мовы — асаблівыя пакуты. Але каб Валодзя што-небудзь перадзаваў з такіх прадметаў, як літаратура, мовы? Ніколі нічога падобнага не здаралася. Ці яшчэ прыклад. Нам па літаратурах спісы твораў давалі такія, што прачытаць іх нават фізічна мы не паспявалі. Таму напярэдадні экзамена, скажам, па замежнай літаратуры мы збіраліся і пераказвалі адно аднаму асобныя рэчы (хто што паспеў прачытаць). Валодзя ў такіх сустрэчах ніколі не ўдзельнічаў. Яму не шкада было расказваць, але і патрэбы слухаць не ўзнікала. Ён да гэтага ставіўся зусім інакш: варта ведаць і чытаць усё самому. Аднак зноў жа існавалі розныя тонкасці. Не кожнаму выкладчыку падабалася самастойнасць студэнтаў, іх уласны погляд па многіх пытаннях. За выключэннем, канешне, старой плеяды нашых педагогаў.

Дарэчы, у нас пастаянна працавалі навуковыя гурткі. Многія пачыналі іх наведваць і даволі хутка кідалі. Караткевіч там прыжываўся. Ён займаўся ў прафесара А. Назарэўскага, які вельмі высока ацаніў яго як студэнта. У далейшым рэцэнзуючы рэфераты, якія Караткевіч прадставіў для паступлення ў аспірантуру (1957 год), Назарэўскі адзначаў "цудоўную начытанасць аўтара ў літаратуры, дасканалае знаёмства з вывучаемай эпохай і самастойнасць думкі".

На курсе, між іншым, хапала выдатнікаў. (Для некаторых павышаная стыпендыя была асноўным сродкам існавання). Але пры гэтым большасць сваё "выдатна" проста "вызубрывалі", і толькі такія, як Валодзя, імкнуліся атрымаць максімум ведаў, хаця Караткевіч і не ўваходзіў у кола пастаянных выдатнікаў курса, таму што ў яго быў свой падыход да універсітэцкай праграмы навучання студэнтаў.

Я тут яшчэ хачу сказаць, што сярод нашых аднакурснікаў, хто збіраўся пасля вучобы ісці ў навуку, вылучаліся дзве катэгорыі. Першыя бачылі ў гэтым кар'еру, пэўны сацыяльны статус і г. д. А для другіх — навука дзеля навукі — набыццё новых ведаў, пашырэнне кругагляду, мажлівасць яшчэ больш чытаць і даследаваць. У свой час аспірантура для Валодзі, канешне, вырашыла б шмат праблем. Але гэтым займаўся партком (нават не кафедра). Ён засядаў вясною, яшчэ да абароны нашых дыпломаў (дзяржаўныя экзамены мы не здавалі). І ўжо тады было зразумела: такія, як Валодзя, як Фларыян, калі пойдуць у навуку, будуць сур'ёзна ёю займацца. Гэта, сапраўды, іх стыхія.

На жаль, усё вышэйсказанае нікога не цікавіла. Караткевіча немагчыма было рэкамендаваць у аспірантуру. Таму што не член парткома, не член камітэта камсамола і г. д. І тата з мамай не займаюць адпаведных пасад... Нават тыя ж Маслаў і Назарэўскі не здолелі яму дапамагчы. Ад нашых прафесараў тут нічога не залежала... Аспірантура для Валодзі магла б стаць шляхам у вялікую навуку, аднак месца яму ў ёй не аказалася ні ў 1954, ні ў 1957 гадах. Сёння я думаю, можа яно і да лепшага. Мы маем у асобе Караткевіча вялікага і таленавітага пісьменніка.

— Муза Яўгенаўна, на вашу думку, цікавасць Уладзіміра Сямёнавіча да гісторыі на той час у чым праяўлялася?

— Я б сказала так: гісторыя для яго — жыццё, у якім некалі таксама людзі думалі, кахалі, змагаліся, верылі ў пэўныя ідэалы. Але час мінуў, і рукамі да гэтага цяпер не дакранешся. Таму трэба вывучаць, аналізаваць, што адбывалася, як, чаму. І разам з тым тваё асабістае жыццё з цягам часу таксама стане гісторыяй. Валодзя адчуваў сябе сведкам і дзеючай асобай гісторыі адначасова.

Працяг.
Пачатак у №№ 48—50.

**МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

* * *

8 снежня адбыўся вечар, прысвечаны 400-годдзю з дня нараджэння геніяльнага італьянскага скульптара і архітэктара Ларэнца Берні. Яго фантаны — Трытона, Чатырох рэк, Слана, каланада на плошчы св. Пятра значна паўплывалі на архітэктурны пейзаж Рыма XVII стагоддзя і дагэтуль з'яўляюцца ўпрыгажэннем італьянскай сталіцы. Архітэктурным цудам стала створаная вялікім майстрам парадная ватыканская лесвіца Скала Рэджа.

Дакументальная стужка, якая дэманстравалася, дала магчымасць пазнаёміцца з творчасцю гэтага яркага прадстаўніка мастацтва барока. На вечары выступіў консул пасольства Італьянскай Рэспублікі, які высока адзначыў дзейнасць таварыства "Беларусь — Італія" па ўмацаванню і развіццю культурных сувязей паміж нашымі краінамі.

А напрыканцы адбылося выступленне ансамбля "Туці" Беларускага універсітэта культуры. Калектыў гэтай восенню ўдзельнічаў у Міжнародным фестывалі ў італьянскім горадзе Кастэлфідарда і быў адзначаны 2-й прэміяй.

* * *

У гэты ж дзень адбылася перадкалядная вечарына, наладжаная Домам дружбы сумесна з шведскай фірмай "Ікса". У свяце прынялі ўдзел прадстаўнікі пасольства Швецыі ў Маскве, фірма "Sandvik", намеснік міністра лясной гаспадаркі В. Герасіменак.

9 снежня

## МЫ З ТАБОЙ

Гэтыя словы адрасаваны юнай мастачцы з Магілёва. Дзеці валодаюць адной вельмі важнай перавагай перад дарослымі — яны ўспрымаюць свет праз прызму гармоніі, і таму ён поўны святла, радасці і прыгажосці. Такі свет дорыць нам і Ірына Лемяшонак, якая нарадзілася ў Магілёве ў год чарнобыльскай аварыі. Ірынка, прыкаваная з дзяцінства да ложка і інваліднай каляскі, не страціла аптымізму, любові да жыцця.

У Доме дружбы была наладжнана выстава юнай мастачкі Ірыны Лемяшонак. Работы, выкананыя гуашшу і вугалем, — гэта адбітак любові і захаплення, тых пачуццяў, якія выклікае ў дзяўчынкі Храм, імя якога — Прырода. Творчасць, лічыць Ірына Лемяшонак, адзіны шанц у яе жыцці, дадзены самім Богам, і яго трэба цалкам выкарыстаць. У кожным запісе ў кнізе водгукаў — словы ўдзячнасці дзяўчынцы за ўрок аптымізму, мужнасці і надзеі.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ПЕРШАГА АЛЬБОМА —

ужо сама па сабе падзея. Але аўтару балета па казцы Г.-Х. Андэрсена "Дзюймовачка" на момант яго напісання было ўсяго... 12 гадоў. Імя Дзінары Мазітавай, юнай піяністкі і кампазітара з Ліды, вядомае ўжо і за межамі Беларусі: творчая біяграфія яе, нягледзячы на ўзрост, даволі багатая. Дзяўчынцы было 9 гадоў, калі яна стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу піяністаў імя. М. Агінскага. У 11 — лаўрэат міжнароднага конкурсу "Я — кампазітар" у Санкт-Пецярбургу. Штогод не без поспеху ўдзельнічае яна і ў міжнародным конкурсе юных і маладых талентаў "Надзея".

Асабліва ўдалым стаў для Дзінары Мазітавай 1998 год. У сакавіку яна прымала ўдзел у міжнародным конкурсе, прысвечаным 200-гадоваму юбілею А. Пушкіна, стала лаўрэатам і выступала на праслаўленай сцэне Вялікай залы Маскоўскай кансерваторыі. А яе песня "Школьны вальс" мела поспех на Усебеларускім тэлевізійным конкурсе. І яшчэ адна радасная падзея — выйшаў у свет першага нотнага альбома "Дзюймовачка", выдадзенага Беларускім дзіцячым фондам. Прэзентацыя альбома, якая праходзіла ў Доме дружбы, — гэта не толькі калядны падарунак самой Дзінары Мазітавай, але і ўсім, хто завітаў у той дзень на святочны агеньчык. Між іншым, на прэзентацыі прысутнічалі вядомыя беларускія кампазітары Дзмітрый Смольскі, Ігар Лучанок і першы настаўнік Дзінары — Віталь Радзівонаў.

У творчым багажы Дзінары Мазітавай, якая пачала пісаць музыку ў 6 гадоў, — песні, п'есы, сюіты, некалькі балетаў, опера. Усе гэтыя жанры і былі прадстаўлены ў канцэрце, у якім акрамя самога аўтара прымалі ўдзел яе сябры з музычнага тэатра "Ліда-мюзікл".

І яшчэ адна важная падзея адбылася восенню гэтага года ў жыцці юнага кампазітара з горада Ліды: Дзінара Мазітава стала навучэнкай ліцэя пры Акадэміі музыкі. Дзмітрый Смольскі, кампазітар, творчасць якога — гэта адна з самых яркіх старонак сучаснай класічнай музыкі Беларусі, апякае дзяўчынку. Яму імпануе яе сціпласць, неразбэшчанасць. Кампазітар лічыць, што прыродныя задаткі Дзінары, памножаныя на працу, дадуць свой плён.

* * *

**15 снежня** Таварыства культурных сувязей прымала дэлегацыю на чале з Данілам Вуксанавічам, намеснікам Старшыні Ўрада Сербскай Рэспублікі, а таксама сербскіх літаратараў, Белградскі камерны хор пад кіраўніцтвам прафесара Уладзіміра Марковіча. Сустрэча праходзіла ў рамках Дзён культуры Сербіі, і адзін з ініцыятараў яе — таварыства "Беларусь — Югаславія", створанае два гады таму назад. Напрыканцы вечарыны адбылося падпісанне пагаднення аб далейшым супрацоўніцтве.

* * *

**16 сняжня** — краязнаўчая вечарына з нагоды Дня незалежнасці Казахстана, наладжаная таварыства "Беларусь — Казахстан" разам з пасольствам.

* * *

**18 снежня** — на прэзідыуме Таварыства культурных сувязей разгледжана пытанне аб удасканаленні работы таварыства "Беларусь — Францыя", аб рэалізацыі маладзёжнай праграмы БТД, аб выніках 1998 года і планах на 1999 год.

* * *

**22 снежня** адбыўся вечар таварыства "Беларусь — Латвія". Былі падведзены вынікі конкурсу малюнка "Латвія — вачыма беларускіх дзяцей". У ліку пераможцаў — выхаванцы выяўленчай студыі "Вясёлка" горада Бабруйска.

**АДНОЙЧЫ НА НОВЫ ГОД**

# СЮРПРЫЗ МАНАХАЎ-БЕРНАРДЗІНЦАЎ

**У пераліку заслуг і званняў старшыні таварыства "Беларусь — Швейцарыя", мастака, акадэміка, лаўрэата прэміі імя Дж. Нэру, уладальніка залатога медаля Гагарына, удзельніка шматлікіх міжнародных выстаў Георгія ПАПЛАЎСКАГА неяк не знайшлося месца яшчэ аднаму званню — заслужаны турыст-падарожнік. Без перабольшання можна сказаць, што гэты чалавек аб'ездзіў паўсвету. Але не будзем пералічваць усе краіны, дзе ён пабываў, а спынімся на тых, дзе Георгію Георгіевічу давялося сустракаць Новы год і Каляды. І, канешне ж, пры гэтым не абышлося без прыгод. Такім чынам...**

— Мы прыляцелі ў Аўстралію напярэдадні Каляд, і адзін бернардзінскі манастыр даў нам прытулак, прапанаваўшы кожнаму персанальную келлю. У нашым разуменні, манастыр — гэта месца сумнае, маркотнае, да таго ж галаднаватае. Адным словам, святам і не пахла, і мы ўсе засмуціліся. Але куды дзенешся?! Пераначавалі, сціпла паснедалі, а потым пайшлі разам з манахамі на ранішнюю службу. Ледзьве абеду дачакаліся. Заходзім у трапезную — і што за цуд! — сталы літаральна гнуцца ад розных страў. Але вочы нашы дарма спрабавалі ў гэтым багацці выхапіць хаця б пару бутэлечак віна. І мы засумавалі.

Толькі чамусьці гаспадары нашы (дарэчы, каларытныя незвычайна: што ні твар — тыпаж для мастака) урачыста сядзяць, нечага чакаюць. Трапезу не пачынаюць, гэтак загадкава на нас пагалядаюць, усміхаюцца... Нешта ўжо чаканне зацягнулася.

І раптам дзверы расчыніліся, і чарада манахаў (чалавек дваццаць — не менш) з бочачкамі віна і чарпакамі пайшла да сталоў. Гэта было цудоўнае відовішча, вартае вялікага Дам'е! Нашы гаспадары дружна засмяяліся — так, яны, як сапраўдныя акцёры, паўзу вытрымалі выдатна. Ну а манастырскае віно... што там гаварыць — боскі нектар.

А на Новы год нас запрасіў у свой маёнтак адзін вядомы шахматыст-югаслаў, які выбраў пастаянным месцам жыхарства Аўстралію. Каляды і Новы год тут прыпадаюць на разгар лета: горача, квітнеюць магноліі і мноства яшчэ нейкіх экзатычных дрэў і раслін. Вакол маёнтка — вялізны парк, сярод усёй гэтай квітнеючай і духмянай флоры мы і сустракалі Новы год. Рознакаляровыя лямпачкі, гірлянды на пальмах і іншых дрэвах, пражэктары — усё заліта святлом. А над галавой ззяе, пераліваецца вялізнымі дзівоснымі алмазамі сузор'е Паўднёвага крыжа. Фантастыка!

Ну, натуральна, у памяці засталіся і мае першыя Каляды і Новы год за мяжой — гэта было ў Будапешце. У нас застолле толькі пачынаецца, а там ужо да адзінаццаці гадзін усе на вуліцах. Тут самае веселле і пачынаецца. Людзі хочуць і ўмеюць вадзіцца, весяліцца — у гэту ноч яны ўсе сваякі, членаы вялікай сям'і.

Мне пашанцавала: акрамя Аўстраліі і Венгрыі, Каляды і Новы год давялося сустракаць у Італіі, Індыі, Германіі (нават двойчы).

Некалькі гадоў таму ў такую ж пару быў я ў Венецыі. Натуральна, прыкупіў маску, просценькую такую: акуляры, да якіх прымацаваны нос. Але толькі я прымераў свой набытак, як падлялела да мяне чарада маскараднага люду і адразу ж сарвала і забрала маю маску. Я ўзрушыўся было, але перакладчыца, смеючыся, параіла: "А вы такім жа чынам паступіце..." Што я і зрабіў з вялікай ахвотай.

Венецыянскія карнавалы вартыя захаплення і заслужылі тыя натхнёныя радкі, якія прысвячалі ім паэты і празаікі (і не толькі яны!) на працягу стагоддзяў.

Венецыянцы вельмі любяць "залатыя" маскі. Як і касцюмы, некаторыя маскі — сапраўдныя творы мастацтва і каштуюць немалых грошай. На вуліцах і плошчах праз кожныя дваццаць метраў музыканты выконваюць свае любімыя мелодыі. Мастакі тут жа партрэты, пейзажы і карнавальныя сцэнкі на заказ робяць. А фатографы — з любым персанажам, маскай увекавечаць на памяць і нават грошай за гэта не возьмуць: горад плаціць, карнавальныя расходы — асобая частка яго бюджэту. Тут сапраўдны рай.

Такога свята мімаволі пажадаеш і нам усім!

Нашага госця распытвала **Марта КОСЦІЧ.**

*Георгій Паплаўскі з маскамі.*

*Фота Яўгена КОКТЫША.*

МАЙСТЭРНЯ МАСТАКА



*Ганна БАЛАШ з дзецьмі.*

# ІМГНЕННІ ШЧАСЦЯ ГАННЫ БАЛАШ

**_Мінулай восенню Каліф застаўся ў Англіі ў дачкі вядомай пісьменніцы Вірджыніі Вулф: вельмі ўжо даспадобы прыйшлася ёй гэтая лялька. Ды і ўся калекцыя Ганны Балаш, як і работы яшчэ некалькіх мінскіх мастакоў, што былі выстаўлены ў муніцыпальнай галерэі "Стар" старажытнага горада Брайтан, мела вялізны поспех._**

● **Маргарыта СТАРЫХ.**

Той восенню здарылася яшчэ адна надзвычайная падзея: Ганну пасялілі ў доме Дафны і Пітэра Гофаў. Калі Дафна ўбачыла лялькy ў белай бальнай сукенцы і ў капелюшы з вялікімі палямі, яна разрыдалася, бо пазнала ў ёй Наталі — гераіню Марыі Казарэс з вядомага фільма Марселя Карнэ "Дзеці райка". Бацька Дафны некалі сябраваў з гэтай надзвычайнай французскай актрысай, якая стала кумірам і мінскай дзяўчынкі Ані, дачкі беларускага крытыка і кіназнаўцы Вольгі Нячай. Аня вырасла, а любоў і захапленне Марыяй Казарэс і фільмам "Дзеці райка" ўмацаваліся і знайшлі сваё ўвасабленне ў ляльцы Наталі-Марыі. Пасля абмеркавання агульнага аб'екта пакланення новыя англійскія сябры адвялі мінскую госцю да жонкі мастака, які рабіў афішу да гэтага вядомага фільма.



*Лялька Каліф.*

Наогул, зносіны ў тыя два тыдні былі незвычайна насычанымі, поўнымі невялікіх адкрыццяў, момантаў шчасця. Адно з іх — свет вялізны, але не настолькі, каб не сустрэць нават у далёкай краіне людзей у чымсьці блізкіх, роднасных табе. Гэта хутка дапамагло пазбавіцца ад комплексу, які ўзнікае, калі трапляеш за мяжу, у іншы ўзровень жыцця. І да таго ж Ганна — вельмі кантактны чалавек, нягледзячы на тое, што жыццё яе ў асноўным працякае ў сценах дома, сярод сваёй сям'і — муж, дзеці і сабака патрабуюць увагі і клопату. Але яшчэ і так склалася, што творчасцю яна таксама займаецца дома.

— Хаця прывыкла працаваць у калектыве, — удакладняе Ганна. — Спачатку была работа мастаком па касцюмах у фільме Віктара Шавялевіча "Пастка для зубра". Шчаслівая была пара! Потым Рускі тэатр — "П'ярэта". Працаваць з Барысам Луцэнкам, галоўным рэжысёрам Рускага тэатра, было цікава, і разам з тым я вельмі востра адчула, што мастак-пастаноўшчык — асоба паднявольная. Але адчуванне флёру тэатра, пах кулісаў... яго ўдыхнеш аднойчы і ўжо немагчыма забыцца. І да лялек прыйшла менавіта пасля гэтага — проста змяніла форму выразу — абрала тэатр аднаго акцёра, дзе я паўнапраўны аўтар і выканаўца.



*Ансамбль, зроблены для заказчыцы з Германіі.*

За некалькі гадоў існавання тэатра створана 38 лялек — рыцары, прынцэсы, арлекіны, цыганкі... І ўсё ж у яе тэатры мастак пераважае, бо:

— Лялька для мяне — гэта не тое, што душа просіць, а тое, што дыктуе матэрыял, форма. У гэтай мне цікава было спалучаць парчу і аксаміт... Апошняя — "Птушка". Такую назву дала, таму што ў яе капялюшык-дзюбка. Каму яна дастанецца, няхай сам прыдумвае імя і біяграфію. "Птушка" пачалася са старой шаўковай хусткі з кутасамі, у якую былі загорнуты кабачкі, што сябры прынеслі. Мне захацелася даць гэтай хустцы другое жыццё. Гэта ў мяне ад бабулі — нічога не выкідваць, падбіраць, "упарадкаваць", як яна гаварыла.

Любімыя лялькі Наталі-Марыя і Блакітны клоун — з імі я не расстануся ніколі. Тое, як упрыгожвае сваіх лялек у багатыя ўборы Аня, нагадала мне мае дзіцячыя гульні. Толькі я не шыла сукенкі сваім прынцэсам і папялушкам, а малявала іх на паперы, а потым выразала і "надзявала" на папяровую лялькy.

Што ж заключаецца ў "дарослых гульнях" Ганны Балаш — настальгія мастака па вытанчанасці, прыгажосці, якіх так нестае нам у жыцці?! А можа адвечнае прыцягненне жанчыны — захавальніцы ачага да рукадзелля, якое амаль цалкам перавялося ў нас, з'арыентаваных на заваяванне месца ў грамадстве, а не на дом і сям'ю? Або... Хутчэй і тое, і другое, і трэцяе...

Між іншым, Ганна да нядаўняга часу не менш цікава працавала са скурай — бранзалеты, завушніцы, кулоны... "Зараз не займаюся гэтым — пазногці перасталі расці. Я ж без клею працавала, па тэхналогіі, фактуры самога матэрыялу".



*Ева і Прынц.*

Асноўная форма заработку для яе — народны сцэнічны касцюм. Разам з Аленай Сяргеевай, знаёмства і сяброўства з якой лічыць падарункам лёсу, яна "апранула" ансамблі "Крупіцкія музыкі", "Бараўлянскі гармонік". Калі нехта звярнуў увагу на элегантныя залацістакарычневыя касцюмы "Камераты" падчас выступлення на фестывалі "Славянскі кірмаш", то ведайце: гэта таксама справа рук Ганны і Алены.

Але бываюць і персанальныя заказы, дзе як нельга лепш можна прымяніць усе тэхнікі, якімі Ганна валодае: бацік, шыццё, пэчварк, аплікацыю і г. д. І атрымліваецца нешта надзвычай стыльнае, прыгожае, ні на што непадобнае.

...У вялізных каробках, паклееных вясёлымі дзіцячымі шпалерамі, зараз у доме Балашоў жывуць пяць лялек. Сямігадовая Ева дапускае, што ўначы яны, без сумнення, могуць выходзіць на волю і танцаваць. Але, напэўна, усё ж не выходзяць: баяцца пабудзіць матулю, якая спіць у тым жа пакоі.

Гэта апошнія такія лялькі ў палову чалавечага росту.

— Хочацца нейкай іншай формы, маштабу, — прызнаецца Ганна.

Магчыма, жаданне змен нейкім чынам звязана з нядаўняй падзеяй: у сям'і Балашоў нарадзілася трэцяе дзіця.

На сённяшні дзень, ды і на наступныя дні і гады пры ўсіх творчых поспехах і пошуках сям'я для Ганны Балаш — галоўнае. "Рэальнае жыццё, — як гаворыць яна сама, — сонца, дзеці, а ўсё іншае — гэта работа..."



*Сцэнічны народны касцюм.*

Голас Радзімы

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 2340.
Падпісана да друку 23. 12. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.